# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква

ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217

Год I6/22 Сьнежань, I994 2/34/44




КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ АД ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

Хрыстос нарадзіўся, слаўце!

Ізь Сьвятам, у дзень якога збыліся даўнія прароцтвы й праз зыйсьцё на зямлю ў людзкім целе Божага Сына пачалося нашае збаўленьне ад спадчыннае загубнасьці грэху, вітаю Вас Чэсьці Годнае Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі, Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да гэтае роднае Сьвятое Царквы йимкняцеся, а яшчэ доступу ня маеце.

Заклікаю ўсіх Вас з пабожнай пашанай адзначыць гэтае вялікае Сьвята й жадаю, каб,узмацаваўшы сэрцы сьведамасьцяй выяўленае ў гэтым Сьвяце азнакі Божае любасьці да людзкога роду, Вы дазналі цяперняю ўрачыстаю парою незамучонае радасьці ды былі ёю, разам із усялякай памыснасьцяй, шчадроныя кожны дзень у новым I995-м годзе.

А тым, што, із спалых на іх цяжкасьцяў ды бедаў, сёньня цяпла радасьці ў душы выкрасаць ня здольваюць, наказваю не патанаць бязьдзейна ў роспачы, а ў пэўнасьці на настаньне з Божае Ласкі лепшае будучыні знайсьці ўсьцеху сьвятняю парою.

Да ўсіх чыста зьвяртаюся йз словам асьцярогі ня шукаць сэнсу жыцьця ў вадных матэрыяльных і сьвецкіх здабытках, багацьцях і насалодах, бо хоці на іхняе прыдбаньне няма меры, а на здаваленьне прагі да іх няма мяжы.

Затое ў выкананьні Божых наказаў, службе Бацькаўшчыне й дапамозе блізкім здабываецца ўпэўненасьць нашае пасьлядоўнасьці наканаванаму нам з Найвышша шляху, пачуцьцё людзкое годнасьці й вартасьці, ды радасьць із зробленага дабра.

Гэтыя высокія, а пастаўленыя нашым Стварцом перад намі жыцьцёвыя мэты, трэба нам заўсёды мець на ўвеце, а асабліва цяпер, калі важыцца доля дзяржаўнае незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны-Беларусі, без захаваньня якое мы ўсе застанемся ўдома парабкамі й жабракамі, а ў сьвеце сіротамі й бяз роду бадзягамі.

Пэўна, каб гэтую Богам дароную дзяржаўную незалежнасьць убараніць і захаваць, нам нельга спыніцца на тых намаганьнях, працы й ахвярах, якія мы дасюль дзеля гэтае справы рабілі, або іх уменшыць, але наадварот неабходна гэтыя высілкі яшчэ памножыць ды узмоцніць.




Але й найвялікшыя асягненьні нашае дзейнасьці прападуць дарэмна, калі мы аддамо іх у рукі невукаў і няўмельцаў, або на волю зраднікаў і ашуканцаў, што плод нашае ахвярнасьці падурному змарнуюць, ці прададуць суседзям сабе на карысьць, а нам на шкоду й вечнае гараваньне.

Таму ўсе Вы, Любыя, на Бацькаўшчыне й ускрозь па сьвеце, ня будзьце абыякавыя, або ня стаўцеся ўлегцы да працэсу ўтварэньня дзяржаўнае й мяйсцовае ўлады ў нашым Краі.

Выконвайце Вашыя грамадзянскія абавязкі ў выбарах і карыстайцеся Вашымі канстытуцыйнымі правамі дзеля нагляду над тымі, каго Вы ўжо на ўладу выбралі й яшчэ выбярэце, ды над тымі, што з прызначэньня выбраных гэтую ўладу зьдзейваюць.

А задумоўваючыся над выбарам, які Вам даводзіцца рабіць, згадвайце, Любыя, аповяд із Сьвятога Пісьма аб трох мудрацох, што за Бэтлеэмскай зоркай прыйшлі з дарамі пакланіцца Дзіцятку-Ісусу.

Узважце, ці былі яны мудрацамі з адных тых ведаў, што ім паказалі шлях у Бэтлеэм, ці мо барждзэй яшчэ йз зразуменьня, што навука вядзе да вызнаваньня велічы Стварца сьвету ды Ягонага ўсхваленьня.

Ды вазьмеце на думку, ці тыя падарожныя здалёк ня выявіліся мудрацамі яшчэ й з тае прычыны, што не вярнуліся да Гірада паказаць дарогу да Бэтлеэмскае павеці ды не ўдалі Дзіцятка на сьмерць.

Узяўшы гэты сказ на ўвет, ня стаўце да ўлады тых, што адно ў вынахадах чалавечых мазгоў бачаць адказы на людзкія патрэбы ды йимкненьні, але выбірайце тых, якія вызнаюць Божую зьверхнасьць над справамі сьвету.

А яшчэ не давайце веры й не дапускайце да шкоды тых, што, быццам, па шляху службы нашай нованародщанай незалежнасьці йдуць, ды ўдаць і прадаць яе чужым Гірадам імкнуцца.

Якім-жа спосабам пазнаваць, якою мерою мерыць у гэтым выпадку людзей, каб не апынуцца пад самаволяй недарэкаў, або гвалтам адступнікаў і зраднікаў?

Адзіным пробным камяням на гэта можа быць толькі непахісна вызнанае й наважна выяўленае ахвотнікамі на ўладныя становішчы зразуменьне неабходнае й неадкладнае, дзеля ратунку й умацаваньня нашае дзяржаўнасьці, патрэба ўзнаўленьня аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне.

Толькі бо родная, звонку незалежная Беларуская Праваслаўная Царква патрапіць данясьці да народнае сьведамасьці Знайвышні Наказ шанаваць і ўзбагачваць нашую Богам дадзеную духовую рознасьць, і моўную апрычонасьць ад іншых народаў, ды гэтак збудаваць трывалую падмуроўку незалежнага дзяржаўнага йснаваньня.

І толькі тыя, што да іхняга розуму гэтая Вялікая Праўда дайшла, ды запаліла іхнія сэрцы навагай за ўжыцьцяўленьне гэтае Праўды змагацца, толькі яны з пабожнай сумленнасьцяй выконваючы ўвераныя ім у службе Беларускаму Народу абавязкі, патрапяць знайсьці шлях да лепшае будучыні зь бездарожжа, у якім апынулася нашая Бацькаўшчына.

Дык слухайце ўжо цяпер, перад недалёкімі выбарамі ў Зьверхнюю Раду Рэспублікі Беларусь, як кандыдаты на дэпутацкія становішчы ставяцца да ідэі нацыянальнае Беларускае Праваслаўнае Царквы й што, каб зьдзесьніць яе зьбіраюцца зрабіць.

А калі ў іхніх праграмах аб гэтым успаміну няма, дамагайцеся, каб справа роднае Праваслаўнае Царквы была цьвёрда пастаўленая на чале намераў іхняе дзейнасьці.

Вы-ж, нашыя Любыя Вернікі, што за межамі Краю, заахвочвайце й падбадзёрвайце нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне выказаныя гэтта парады выконваць, ды чым зможаце іхнюю навагу ў гэтай справе падтрымоўвайце.

Гэтак усе мы разам асягнем тады адбудовы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў нашай запраўды незалежнай дзяржаве, у якой у дастатку, супакоі й згодзе будзем у роднай мове радасна ўслаўляць Бога ў дзень нараджэньня Ягонага Сына з Найчыстае Дзеўны ды праз увесь час, што Ён нам наканаваў на зямлі.

\+ І з я с л а ў
Мітрапаліт і Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

## СЬВ. АДПРАВЫ АД КАЛЯД ДА ВЯЛІКАДНЯ

Божыя Службы на Каляды й далейшыя сьвяты аж да Вялікадня будуць адпраўляцца, як пададзена ніжэй /усе даты паводле новага стылю/:

Наконадні Каляд, ці йнакш на Куцьцю, у пятніцу, 6-га студзеня 1995-га г., а 6-й г. вечара - Вялікае Павячэрра з Раніцай.

У дзень ХРЫСТОВАГА НАРАДЖЭНЬНЯ, у сыботу, 7-га студзеня /першы дзень Каляд/ - пачатак Сьв. Літургіі а 10-й г. раніцы.

У нядзелю, 8-га студзеня /другі дзень Каляд/ - пачатак Сьв. Літургіі а 9-й г. раніцы.

На Новы Год /паводле старога стылю/, у сыботу, 14-га студзеня, - адправы ня будзе.

На Вадохрышча, у чацьвер, 19-га студзеня - пачатак Сьв. Літургіі а 10-й г. раніцы. Усьлед пасьля Сьв. Літургіі будзе Вялікае Асьвячэньне Вады /Ярдань/. З гэтага дня, пасьля адправаў, пачнецца абход дамоў з Вадохрышчанскай вадою. Просьба да ўсіх парахвіянаў дамаўляцца, калі ласка, загадзя на час наведаньня.

На Грамніцы, у сераду, 15-га лютага, адправы ня будзе. Асьвята сьвечак будзе ў наступную нядзелю, 19-га лютага.

Запускі сёлета выпадаюць у нядзелю, 5-га сакавіка, а Вялікі Пост пачынаецца ў панядзелак. 6-га сакавіка.

Кожнае нядзелі ў Вялікі Пост, як і праз цэлы год, перад пачаткам Сьв. Літургіі, ад 8.30 да 9-е г. раніцы, можна спавядацца.

У гэтым самым часе, або яшчэ лепш на колькі дзён раней, можна таксама замаўляць паніхіды й малебны, ды падаваць сьпіскі на ўспамінаньне.

26-га сакавіка - Крыжапаклонная нядзеля. Пасьля Сьв. Літургіі малебен з нагоды 77-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25-га сакавіка 1918 г.

На Дабравешчаньне, у пятніцу, 7-га красавіка, адправы ня будзе.

На Вербніцу, у нядзелю, 16-га красавіка - пачатак Сьв. Літургіі, як і ў кожную нядзелю, а 9-й г. раніцы.

У Вялікі Чацьвер, 20-га красавіка - Успамін Хрыстовых Мукаў /12 Эвангельляў/ - пачатак а 6-й г. увечар.

Вялікая Пятніца, 21-га красавіка - Вячорня й вынас плашчаніцы на ўспамін Хрыстовых Паховінаў - пачатак а 6-й г. увечар.

Вялікая Сыбота, 22-га красавіка - Паўночніца - пачатак а г. 11.30 увечар.

ВЯЛІКДЗЕНЬ, нядзеля, 23-га красавіка - Крыжны Ход і Зараньня, ды ўсьлед Сьв. Літургія - пачатак а 12-й г. уначы. Пасьля адправаў асьвячэньне пасхаў.

Сьв. Літургія ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пачынаецца кожнае нядзелі а 9-й г. раніцы.

Адправы ў сьвяты, што прыпадаюць у тыдні, а таксама дадатковыя незаказаныя гэтта адправы, ці зьмены ў іх, абвяшчаюцца загадзя з амбону ў царкве.

Вячорныя адправы, апрача пададзеных гэтта вышэй, дзеля далячыні, кошту й цяжкасьці даезду амаль усіх парахвіянаў і кліру, часова спыненыя.

Наведвайце сваю родную Сьвятыню!

## З Ж Ы Ц Ь Ц Я Б А П Ц

## ЛІСТЫ Ў СПРАВЕ ВЫБАРАЎ ПРЭЗЫДЭНТА БЕЛАРУСІ

Назіраючы, забясьпечаны папярэднім урадам Рэспублікі Беларусь, манаполь кандыдатуры В. Кебіча на выкарыстаньне інфармацыйных і прапагандных магчымасьцяў у перадвыбарчай кампаніі на становішча прэзыдэнта дзяржавы ды няўтоенае падтрыманьне гэтае кандыдатуры духавенствам Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі, беларуская эміграцыя ў Амэрыцы й у сьвеце моцна трывожылася за свабодны ход, ды нязманны вынік гэтых выбараў, што былі прызначаныя на 23-га чырвеня г. г.

З гэтае прычыны Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў старшыням кіраўнічых у замежнай палітыцы камітэтаў сэнату й кангрэсу ЗША, адказным за ўсходня-эўрапэйскія справы асобам у дзяржаўным дэпартамэнце ды галовам некаторых зацікаўленых, і актыўных у дэмакратызацыі былых падсавецкіх дзяржаваў амэрыканскіх арганізацыяў лісты з просьбай дапамогі забясьпечыць нагляд за прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі міжнароднымі назіральнікамі ў дастатковай колькасьці.

На лісты Я.М. Мітрапаліта былі атрыманыя прыхільныя адказы й, як паказалі падзеі, выбары адбыліся, хоць і пры замалой колькасьці вонкавых назіральнікаў, але бяз большае колькасьці заўважных хітрыкаў і падманаў з боку ўладаў.

## ЗБОР НА ПОМНІК АЙЦУ ЯНУ ПЯКАРСКАМУ

У сёлетнім вялікодным нумары "Царкоўнага Пасланца" быў зьмешчаны заклік ушанаваць па-

мяць выдатнага беларускага рэлігійнага й грамадзкага дзеяча а. прат. Яна Пякарскага дапамогай ягонай удаве паставіць на магіле памерлага помнік.

У Нью Ёрку й ваколіцах збор грошай на гэтую мэту праводзіла Кансысторыя БАПЦ і, дзякуючы ахвярнасьці нашых вернікаў, у канцавым выніку ён прынёс 550 даляраў.

Гэтыя грошы I8-га травеня г.г. былі высланыя сям'і нябожчыка.

Як стала ведама зь ліста ад удавы а. Яна Пякарскага, матухны Аляксандры, помнік на магіле памерлага ўжо пастаўлены й асьвячаны а. ппрсв. Янам Абабуркам.

Матухна Аляксандра, сын і дачка сьв. пам. спачылага, ды Кансысторыя БАПЦ выказваюць усім, што далажыліся ахвярамі на будову помніка, шчырую падзяку за іхнюю шчодрасьць.

## ПАДАРОЖЖА Ў ІСТПОЙНТ

У нядзелю, I2-га чырвеня г.г., прыбылы раней у Істпойнт, каля Дэтройту, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, разам з а.прат. Максімам Таўпекам, адправіў там у царкве Сьв. Духа Сьв. Літургію.

У падарожжы Я.М. Мітрапаліта Ізяслава суправаджалі парахвіяне Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне сп-ва Пётра й Зофія Швэды йз сп-м Язэпам Кузьменкам.

У сувязі з прадбачаным узнаўленьнем адправаў, прыбылыя здалёк бруклінскія вернікі, на колькі дазволіў час, упарадкавалі царкоўны будынак і парахвіяльны дом, ды наваколькую рэзку зямлі, а таксама зрабілі найбольш неабходныя папрравы.

За іхнюю ахвярную працу успомненым вышэй асобам належыцца шчырая падзяка.

Таксама зь вялікай удзячнасьцяй трэба ўспомніць сп-ню Людмілу Бакуновіч, што ня толькі накарміла й прыйняла падарожных на начлег, але й собскай працай далажылася да ўпарадкаваньня царкоўных будынкаў, ды надворку навакол іх.

## ПАРАХВІЯ БАПЦ У ІСТПОЙНЬЦЕ ЎЗНОЎ ДЗЕЙНАЯ

Распараджаньнем Я.М. Мітрапаліта Ізяслава прызначаны на становішча кіраўніка Парахвіі БАПЦ у Істпойньце, каля Дэтройту, і пачаў там у царкве Сьв. Духа зь нядзелі, 26-га чырвеня, адпраўляць Божыя Службы Высака Годны Архімандрыт Інакент.

Адправы Сьв. Літургіі ў Істпойньцкай царкве пачынаюцца кожнае нядзелі й у сьвяты а I0-й г. раніцы, а вячорні ў сыботы й сьвятнія конадні а 6-й г. увечары.

В.Г. Архімандрыт Інакент апякуецца таксама ўкраінскай праваслаўнай парахвіяй Сьв. Ап. Андрэя Першпакліканага, якая зь нястачы собскага будынку моліцца ў Сьвята-Духаўскай царкве.

З увагі на гэта В.Г. Архімандрыт Інакент выдае месячны парахвіяльны бюлетэнь у трох мовах: паангельску, пабеларуску й паўкраінску, у якім падаецца парадак Божых Службаў, неабходныя падрыхтоўчыя паясьненьні да іх, ды парахвіяльныя й агульнацаркоўныя навіны.

Нажаль у будынку царквы Сьв. Духа й плябані за час адсутнасьці, пасьля неадумнае самаліквідацыі парахвіі, гаспадара на месцы, насьпела патрэба на ўсялякія папрравы й аднаўленьні.

Высака Годны Айцец Архімандрыт Інакент зьвяртаецца да ўсіх праваслаўных беларусаў з просьбай дапамагчы ўзнавіць добры стан царкоўных будынкаў у Істпойньце й гэтым забясьпечыць далейшае йснаваньне там беларускага рэлігійнага, ды нацыянальна-грамадзкага асяродка.

Ахвяры, калі ласка, высылаць на адрыс:
Holy Spirit Church, 14873 Collinson Avenue, Eastpointe, MI 48021-2861.

## НА ПАХОВІНАХ ПРЫЯЦЕЛЯ Й ПАМОЧНІКА

2-га ліпеня сёлета ў Самэрсэт, Н.Дж., на 9I-м годзе жыцьця памёр пратапрасьвіцер Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША а. Артэмій Сэлэпіна.

Нябожчык цягам шмат год быў кіраўніком Кансысторыі УПЦ ў ЗША й саборным пратаярэям у катэдральнай царкве-памятніку Сьв. Ап. Андрэя Першпакліканага ў Баўнд Брук, Н.Дж.

Нябожчык быў таксама й добрым прыяцелям Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды асбіста Я.М. Мітрапаліта Ізяслава, якім не адмаўляў у патрэбе магчымае зь ягонага боку помачы.

Таму ў пахавальных адправах над ягоным целам, побач зь Мітрапалітам УПЦ у ЗША Канстанцінам і Архіяпіскапам Антоніям, узяў удзел і Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Пры разьвітальным стале, пасьля пахавальных адправаў, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выказаў слова прысьвечанае памяці добрага прыяцеля й адгукнога памочніка ў патрэбе.

## ПРЫВІТАНЬНЕ ПРЭЗЫДЭНТУ БЕЛАРУСІ

20-га ліпеня г.г., у выніку перамогі ў выбарах, сп. Аляксандар Лукашэнка ўзяў на сябе абавязкі Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

З гэтае прычыны Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў новаму кіраўніку беларускае дзяржавы прывітаньне.

У прывітаньні Я.М. Уладыка Мітрапаліт выказаў павагу да заслугі сп. Аляксандра Лукашэнка на народны давер і надзею, што на найвышэйшым кіраўнічым становішчы ў рэспубліцы ён, узьвёўшы Край на шлях гаспадарчага росьцьвіту й духовага адраджэньня, гэты дадзены яму давер выпраўдае й замацаваныя прысягай свае абавязкі выканае.

Далей Я.М. Уладыка Мітрапаліт заявіў прэзыдэнту Лукашэнку, што асягнуць пастаўленых народнымі спадзяваньнямі мэтаў, бяз узнаўленьня нацыянальнае Праваслаўнае Царквы Беларускага Народу, той ня зможа, ды заклікаў яго паспрыяць гэтай справе.

На заканчэньне Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў пажадаў Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь Божае помачы ўва ўсіх ягоных пачынаньнях на дабро Беларускага Народу.

## НА СЬВЯТКАВАНЬНІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў НЬЮ ЁРКУ

У сераду, 27-га ліпеня г.г., з нагоды выпалых у гэты дзень чацьвертых, паводле ахвіцыйнага ліку ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, у будынку дзяржаўнага Прадстаўніцтва пры Арганізацы Задзіненых Нацыяў ў Нью Ёрку было зладжанае прынагоднае прыйняцьце.

На ўрачыстасьць быў запрошаны й прысутнічаў на ёй Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, а суправаджалі яго др. Расьціслаў Гарошка й сп. Барыс Данілюк.

Пры ўваходзе ў залю, дзе адбывалася прывітаньне гасьцей, Я.М. Уладыка Мітрапаліт меў прыемнасьць пазнаёміцца з новым амбасадарам Рэспублікі Беларусь у АЗН сп. Аляксандрам Сычовым ды займеў зь ім даўжэйшую гутарку пазьней падчас урачыстасьці.

Было прыемна чуць, што сам амбасадар і ягоныя памочнікі, зь якімі давялося сустрэцца ў той вечар, свабодна карысталіся добрай беларускай мовай.

Падчас сьвяточнага буфэтнага пачастунку Я.М. Уладыка Ізяслаў меў нагоду зрабіць новыя, або ўзнавіць даўнія знаёмствы з гасьцьмі й прадстаўнікамі ўсялякіх нацыянальнасьцяў, а таксама й беларускае эміграцыі, ды пагутарыць зь імі на актуальныя тэмы.

Пашчасьціла таксама ўзноў сустрэць прадстаўніцу Рэспублікі Казахстан у АЗН і ў размове зь ёю закрануць становішча беларускае меншасьці ў гэтай дзяржаве.

Хоць на ўрачыстасьці ня было прамоваў ды прывітаньняў, ані мастацкае часткі, кантакт з прадстаўнікамі беларускае дзяржаўнае адміністрацыі й гутаркі йзь сьвяточна настроенымі гасьцьмі пакінулі ў памяці ўзвышныя й прыемныя ўражаньні.

Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў быў запрошаны на гэткую-ж урачыстасьць, што адбывалася ў той самы вечар у амбасадзе Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне, але, дзеля далячыні даезду туды, мусеў падзякаваць за выяўленую да яго пашану.

## СУСТРЭЧА З АРХІЯПІСКАПАМ РАСЕЙСКАЕ ЦАРКВЫ

У нядзелю, 7-га жнівеня г.г., Я.М. Мітрапаліта Ізяслава ў ягонай гасподзе наведаў Архіяпіскап Мангаттанскі й Заступнік Сакратара Сыноду Расейскае Праваслаўнае Царквы за Мяжой В.П. Іларыяён.

Уладыкі ў прыязнай гутарцы падзяліліся інфармацыямі й думкамі аб стане Праваслаўнае Царквы ў сьвеце, Злучаных Штатах і ў незалежных цяпер рэспубліках былога Савецкага Саюзу.

Пасьля гэтых рэчавых размоваў абодва ўладыкі былі запрошаныя на пачастунак у доме сп-ва Барыса й Марыі Данілюкоў, якія пры нагодзе мелі таксама цікавую гутарку з высокім госьцям.

## СУСТРЭЧА З ПРАДСТАЎНІЦАЙ БНФ

16-га жнівеня г.г. сябра Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк сустрэўся, падчас ейнага побыту ў ЗША, з кіраўніцай аддзелу вонкавых дачыненьняў Беларускага Народнага Фронту спняй Валянтынай Трыгубовіч.

Сустрэча адбылася ў прыватным памешканьні ў Самэрсэт, Н.Дж.

У даволі працяглай гутарцы была закранутая сучасная палітычная й эканамічная сытуацыя ў Беларусі, а таксама дзейнасьць гэнам Экзархату Маскоўскае Патрыярхіі ды ўрэшт дачыненьне БНФ да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Нажаль да ніякага паразуменьня ў царкоўных справах не ўдалося дайсьці з прычыны адсутнасьці знаку якое-колечы палітычнае паставы й цікаўнасьці БНФ да ўзнаўленьня беларускае нацыянальнае праваслаўнае царквы, і замена гэтых элементаў у ягонай дзейнасьці спадзяваньнямі сп-ні Трыгубовіч на тое, што з драбніцаў, у якіх паступаецца Мітрапаліт Філарэт, вырасьце родная царква.

Ня былі паможнымі ў гутарцы й пагляды спні Трыгубовіч на Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, бяскрытычна перайнятыя ёю ад гаспадароў, у якіх яна гасьцявала.

## СУСТРЭЧА ЗЬ КІРАЎНІКАМІ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

У нядзелю, 21-га жнівеня, у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Саўт Рывэры, Н. Дж., сябра Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк пазнаёміўся йз старшынём Згуртаваньня Беларусаў Сьвету " Бацькаўшчына" акадэмікам Радзімам Гарэцкім, які ў гэтым часе наведваў ЗША.

Нажаль, абставіны скляліся так, што пасьля прывітаньня заставалася замала часу пагутарыць на супольна цікавыя тэмы.

Затое пашчасьціла мець кароткую размову йз старшынёю Рады гэтае-ж арганізацыі сп-няй Ганнай Сурмач.

У размове былі закранутыя пэрспэктывы ўзнаўленьня нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, пытаньне роднае душпастырскае апекі ў дыяспары й магчымасьці лучнасьці, ды супрацоўніцтва паміж Згуртаваньнем Беларусаў Сьвету " Бацькаўшчына" й Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквою.

Размова выявіла блізкасьць паглядаў абодвых удзельнікаў і скончылася ўзаемным абяцаньнем далейшых кантактаў.

Будзем спадзявацца, што словы госьці ня былі адно выгаднай у нагодзе ветлівасьцяй, а выявам запраўднае навагі абняць дзейнасьцяй Згуртаваньня й справы наладжаньня рэлігійнае апекі беларускае эміграцыі ў блізкім і далёкім замежжы ў нацыянальным духу.

## СУСТРЭЧА З ПРЭМ'ЕР МІНІСТРАМ М. ЧЫГІРОМ

У аўторак, 11-га кастрычніка г.г., Прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў ладзіла ў ягонай гасподзе ў Нью Ёрку прыйняцьце з нагоды наведаньня прэм'ер міністрам ураду Рэспублікі, сп. Міхайлам Чыгіром, Злучаных Штатаў Амэрыкі.

Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву на прыйняцьці рэпрэзэнтаваў Ейны Першагерарх Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, а суправаджалі яго др. Р. Гарошка й сп. Б. Данілюк.

Гасьцей пры ўваходзе ў залю вітаў сам амбасадар, сп. Аляксандар Сычоў зь ягоным заступнікам, сп. Аляксеям Мажуховым, ды іхнімі спадарынямі.

Далей у залі пашчасьціла з прыемнасьцяй пагутарыць зь генеральным консулам Беларусі ў Нью Ёрку, сп. Леанідам Каравайкам, колькі іншымі ўрадаўцамі Прадстаўніцтва, наведнымі ў ЗША ахвіцэрамі беларускага войска ды йз знаёмымі з амэрыканскіх колаў і беларускага грамадзтва.

Пасьля прывітаньня гасьцей сп. амбасадар Сычоў быў ласкаў пазнаёміць Я.М. Мітрапаліта Ізяслава з прэм'ер міністрам ураду Рэспублікі Беларусь сп. Міхайлам Чыгіром.

У вабумоўленай абставінамі вечара кароткай гутарцы Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў прадставіў прэм'ер міністру выратавальную для жыцьця беларускае нацыі неабходнасьць аўтакефаліі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, ды зьвярнуў ягоную ўвагу на небясьпеку для нацыянальнага йснаваньня царкоўнае залежнасьці ад Маскоўскае Патрыярхіі.

Сп. прэм'ер міністар М. Чыгір уважна выслухаў словы й аргумэнты Першагерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й абяцаў пацікавіцца праблемамі Праваслаўнае Царквы ў Беларусі й Ейнае аўтакефаліі, ды ўзважыўшы пачутыя прапановы выкарыстаць іх, паводле магчымасьці, у дзейнасьці.

## ПАЖАР У ЦАРКВЕ Ў НОТЫНГАМ

Доўгім цягам год парахвія БАПЦ у Нотынгам, што ў Англіі, дзякуючы прыхільнасьці англіканскае царквы, карысталася для адправаў будынкам капліцы на мясцовых могілках.

Парахвія, з дазволу гаспадароў, намаглася нават прыстасаваць і ўладзіць будынак капліцы да традыцыяў ды патрэбаў Божых Службаў Праваслаўнае Царквы, якія дагэтуль адпраўляў там наездам а ппрсв. Ян Абабурка.

Нажаль, у канцы кастрычніка г.г., капліччны будынак быў падпалены хуліганамі й выгарэў нагэтулькі, што аб ягонай адбудове ня можа быць мовы.

Вернікі й управа парахвіі разважаюць цяпер дзе, і як забясьпечыць адправу Божых Службаў у будучыні.

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ Ў МЭЛЬБУРНЕ

У нядзелю, 20-га лістапада г.г., Парахвія БАПЦ Сьв. Віленскіх Мучаньнікаў Антона, Яна й Астапа ў Мэльбурне, што ў Аўстраліі, урачыста адзначыла 13-я ўгодкі асьвячэньня, тады яшчэ япіскапам, а цяпер Першагерархам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Я.М. Мітрапалітам Ізяславам собскага царкоўнага будынку.

Сьвяткаваньне пачалося Сьв. Літургіяй, якую, узьняўшы яшчэ больш малітоўны настрой вернікаў учульлівым словам, адправіў кіраўнік парахвіі а.пррсв. Аляксандар Кулакоўскі.

Усьлед за Сьв. Літургіяй быў прынагодны малебен.

Да ўрачыстасьці адправаў моцна спрычыніліся зладныя сьпевы хору пад кіраўніцтвам сп. М. Усьцінава.

Далей сьвяткаваньне працягвалася ў парахвіяльнай залі, дзе Сястрыцтва падрыхтавала шчодры сьвяточны стол.

Немалая грамада прысутных, із смакам спажываючы годныя пахвалы стравы, разам з тым з увагай слухала прысьвечаныя сьвяту прамовы, а паміж імі праводзіла час у цёплых таварыскіх гутарках.

Завяршэньнем духовае спажывы й пачуцьцёвае асалоды ўрачыстасьці быў выступ на ёй ведамага дзявочага хору "Каліні", які выдатна прасьпяваў рад беларускіх песьняў, зьбіраючы за гэта згодныя й працяглыя воплескі.

Падмацаваныя спажыткам роднае духовае й побытавае спадчыны, удзельнікі сьвяткаваньня разыйшліся, дзякуючы Богу, што дасюль захаваў сярод чужынскага мора малы абток успаміну далёкае Бацькаўшчыны.

## З ПАРАХВІЯЛЬНАГА ЖЫЦЬЦЯ

### НАШЫЯ СЬВЯТЫ Й БУДНІ

У ахопленых гэтай зацемкай веснавой, летняй і восеньскай порах 1994-га году парахвіяльнае жыцьцё йшло, хоць не паказным, але належным шляхам:

У Вербную нядзелю сёлета ўзноў, як і цягам шмат год раней, прыгожыя, ухарошаныя ўстужкамі вербы, яшчэ раз прыгатавалі да асьвячэньня ўсім сем'і сп-ва Лысюкоў і Лосікаў.

Адправы ў цярпенным тыдні, як выпадае, прайшлі з павагай і сумам, а Вялікодныя Божыя Службы ўрачыста й радасна.

У Тамашовую, ці йнакш праваднуую нядзелю, тыдзень пасьля Вялікадня, усьлед за Сьв. Літургіяй была адпраўленая паніхіда за супакой душаў ранейшых парахвіянаў, што адыйшлі да Гаспадаровага Пасаду, ды памерлых сваякоў цяперашніх парахвіянаў і маленьнікаў.

Пасьля адправаў у парахвіяльнай залі быў Агульны Сход, аб якім сказана гэтта ніжэй.

На Радаўніцу, у аўторак, 10-га травеня раніцай, адбылося наведаньне й пасьвячэньне магілаў памерлых парахвіянаў на Беларускім Праваслаўным Могільніку ў Іст Бранзвіку, Н.Дж.

У нядзелю, 15-га травеня, з нагоды выпалага ў тыдні дня памяці патрона Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, ды ў нядзелю 22-га травеня, з нагоды ўгодкаў зьяўленьня дзівам у Жыраве вобразу Божае Маці-Апякункі Беларускага Народу, пасьля Сьв. Літургіі былі адпраўленыя адумысловыя малебны.

Далей Божыя Службы ў нядзелі, а калі выпадала й у сьвяты, што ў тыдні, ішлі рэгулярна й нармальна, за выняткам нядзелі 12-га чырвеня, калі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў наведваў парахвію ў Істпойнце, каля Дэтройту.

У другую нядзелю пасьля Сёмухі, 3-га ліпеня, прызначаную на адданьне пашаны Сьвятым Беларускае Зямлі ды Айцом Аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы, усьлед за Сьв. Літургіяй быў адпраўлены прынагодны малебен.

Апрача паніхідаў, што на жаданьне сваякоў памерлых былі адпраўляныя ў некаторыя нядзелі, агульныя паніхіды адбываліся пасьля Сьв. Літургіі ў Тамашовую нядзелю ды ў нядзелю ўсьледнюю Дзядам, 6-га лістапада, а ў нядзелю, 27-га лістапада была адслужаная паніхіда за супакой душаў загінулых і памерлых удзельнікаў Слуцкага Змаганьня, ды ўсіх змагароў за незалежнасьць Беларусі.

У цярпенным тыдні, на Вялікдзень ды пазьней на Сёмуху, дзякуючы дбайнасьці й працы сяброўак Парахвіяльнага Сястрыцтва, царква была ўваброная кветкамі, ці зяленівам, а таксама чыстымі ручнікамі й аблачэньнямі на аналоі.

Яшчэ, дзякуючы клопатам сяброўак Парахвіяльнага Сястрыцтва, кожнае нядзелі пасьля адправаў у парахвіяльнай залі можна было выпіць кубак кавы, а парою й пачаставацца печывам.

За ўсю адзначаную й неадзначаную гэтта працу Парахвіяльнага Сястрыцтва яму й асабліва ягоным сяброўкам Аліне Лысюк, Ганьне Войтэнка ды Марыі Данілюк належыцца моцная падзяка.

Папраўы ў сярэдзіне ды звонку будынку выконвалі, а разам з тым і ўтрымоўвалі парадак сп.сп. Язэп Кузьменка, Пётра Швэд і Расьціслаў Гарошка.

Сп. Юры Касьцюкевіч рэгулярна касіў траву й стрыг кусты ўперадзе і збоку будынку.

Гэтак вось праз дбайнасьць і ахвярнасьць названых, ды неназваных гэтта парахвіянак і парахвіянаў, за што ім шчырая ўдзячнасьць і прасьба Божае Ласкі, Парахвія Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, пазіраючы з надзеяй на Бога ў будучыню, сустрэла сёлета ўвосень 44-я ўгодкі ейнага заснаваньня ды 36 год ад куплі будынку.

### ПАРАХВІЯЛЬНЫ СХОД

З увагі на нечаканы набег неадкладных справаў, у нядзелю, 8-га травеня г.г. быў склікааны Агульны Сход Парахвіі.

Сход прайходзіў у парахвіяльнай залі й пачаўся пасьля Сьв. Адправаў супольнай малітвай ды архіпастырскім заклікам Я.М. Мітрапаліта Ізяслава Божага прыняньня працы сходу.

Кіраваць нарадамі сходу быў выбраны сп. Барыс Данілюк, а рабіць іхні запіс сп. Пётра Манькоўскі.

Пасьля ўступных фармальнасьцяў, сход далей выслухаў справаздачы сяброў дасюлешняе Парахвіяльнае Рады: ейнага старшыні - дра. Расьціслава Гарошка, скарбніка - сп. Уладзімера Курыла й сакратара - сп. Барыса Данілюка.

Справаздача паказала, што, ня гледзячы на на незалежныя ад яе цяжкасьці, Парахвіяльная Рада за час ейнага ўрадаваньня справілася йз узятымі на сябе абавязкамі й стварыла ўмовы дзеля няспыннае й належнае адправы Божых Службаў, ды забясьпечыла патрэбны догляд і ўтрымаваньне будынку.

Таму, пасьля адказу на пытаньні й дыскусіі, на прапанову Кантрольнае Камісіі, справаздача Парахвіяльнае Рады была прыйнятая й ейная дзейнасьць ухваленая з падзякай.

Сьледам за гэтым сход выбраў Апякунчы Збор Парахвіі ў складзе: дра. Р. Гарошка й сп.сп. П. Манькоўскага, Ул. Курыла, П. Швэда, Ю. Касьцюкевіча, ды В. Лосіка, а таксама выконны ворган гэтага збору - Парахвіяльную Раду, у якую ўвайшлі: др. Р. Гарошка й сп.сп. М. Войтэнка, Ул. Курыла, П. Швэд, Ю. Касьцюкевіч ды Барыс Данілюк.

У Кантрольную Камісыю былі выбраныя: сп-ня Марыя Нэстар і сп.сп. Язэп Кузьменка й Валянтын Гарошка.

Пасля выбараў сход прыйняў патрэбныя паводле дзяржаўных падаткавых законаў папраўкі рэгістрацыйных дакумэнтаў парахвіі ды разважыў пляны дзейнасьці на будучыню.

Сход быў зачынены супольнай малітвай і архіпастырскай падзякай за Божую помач у васягненьні памысных вынікаў.

## СЬВ. ПАМ. ПАВАЛ ДРАЗДОЎСКІ

II-га ліпеня г.г., пасьля цяжкое хваробы, на 78-м годзе жыцьця адыйшоў у вечнасьць прыхільнік і памочнік Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы сьв. пам. Павал Драздоўскі.

Нябожчык быў глыбока пабожным чалавекам і ў гэткім духу дбайна ўзгадоўваў сям'ю, дзякуючы чаму ягоны сын, Юры, выбраў сабе шлях сьвятарскае службы ў жыцьці.

Нажаль нястача беларускіх парахвіяў не дазволіла маладому пастыру знайсьці мейсца ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве й прымусіла пайсьці ў чужую юрысдыкцыю.

З гэтае прычыны й далячыні даезду сьв. пам Павал Драздоўскі ня стаў фармальным парахвянінам Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, але сэрцам быў ён гэтай беларускай сьвятыні узорным вернікам.

Прыклады блізкасьці ягонаму сэрцу нашае царкоўнае справы падаваў ён раз за разам, даяжджаючы сьвятамі на адправы й урачыстасьці, цікавячыся справамі БАПЦ увесь час і дапамагаючы шчодрымі ахвярамі на царкоўныя патрэбы.

Няхай-жа ягоная душа спачне ў Божым Райстве, а Амэрыканская зямля акрые цела пухам!

## П А Д З Я К І

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне моцна дзякуе ейнаму ранейшаму старшыню й доўгагадоваму рэгенту царкоўнага хору сп. Міхасю Тулейку за ўзбагачэньне нотнага й кніжнага архіву нашае Сьвятыні ахвяраваным ім паважным зборам ягонай собскай рукою сьпісаных нотаў, друкаваных зборнікаў царкоўных сьпеваў, а таксама багаслужбовых ды іншага рэлігійнага зьместу кнігаў.

- . -

Парахвіяльная Рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне шчыра дзякуе сп-ні Аліне Лысюк за зробленыя ёю й пакладзеныя на магілы пахаваных у Іст Бранзвіку сьв. пам. нашых архіпастыраў, пастыраў і безьсямейных парахвіянаў, каляднія вянкі.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРАВАСЛАЎНЫЯ КАЛЯНДАРЫ БАПЦ

Сёлета, як і працягам шмат папярэдніх год, дзякуючы ахвярнай працы а. ппрсв. Аляксандра Кулакоўскага, у Мэльбурне, што ў Аўстраліі, узноў выдадзены Беларускі Праваслаўны Каляндар - кніжка на 1995-ты год.

У каляндары апрача патрэбных кожнаму праваслаўнаму беларусу каляндарных вестак, зьмешчаныя артыкулы й матэрыялы на рэлігійныя, і беларускія патрыятычныя ды агульна цікавыя тэмы.

Апрача каляндара-кніжкі, дзякуючы шчодрасьці пахавальнае ўстановы М.А. Малішэўскага йз Саўт Рывэру, Н.Дж., якая ўжо даўно займаецца ладжаньнем пахаваньняў на беларускіх праваслаўных могілках у Іст Бранзвіку, сёлета таксама надрукаваны й насьценны Беларускі Праваслаўны Каляндар Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Абодва каляндары можна прыдбаць пры наведаньні Божых Службаў у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й іншых сьвятынях БАПЦ.

Цана настольнага каляндара-кніжкі - 5.00 дал., а насьценнага - 2.00 дал.

## "ГОЛАС ЦАРКВЫ"

Друк наступнага, рыхтаванага на Каляды, нумару рэлігійна-грамадзкага часапісу праваслаўных беларусаў "Голас Царквы", што яго выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, дзеля сур'ёзнае няспраўнасьці дасюль ужыванага кампютэрнага абсталяваньня, адкладзены да часу прыдбаньня новае машыны на складаньне тэкстаў.

Рэдакцыйная Калегія часапісу зробіць усё ад яе залежнае, каб затрымка выданьня была якнайкарацейшай.

## МАЛІТОЎНІК, ШТО ДА МАЛІТВАЎ НЕАХВОЦІЦЬ

Нашае, узьніклае йзь усьведамленьня Божае Волі на зайснаваньне азнакаў апрычонасьці Беларускага Народу й выяўленьне гэтае апрычонасьці перш за ўсё знайвышнім дарам роднае мовы, жаданьне й права, у сучасных абставінах у Беларускай Дзяржаве ды й ахвіцыйна вызнанай гэнам Праваслаўнай Царкве ставіцца ў сумнеў, а часта й запярэчваецца.

Прычынаю гэтае несправядлівасьці й зьнявагі выдаецца быццам нясьпеласьць гэтае мовы, ейная немілагучнасьць ды нат незразумеласьць.

Гэткаю пагрознаю нацыянальнаму йснаваньню пароюкожнае ня толькі невуцкае, ці няўмецкае, але й нядбайнае выкарыстаньне, а тым болей навучаньне свае мовы становіцца нацыянальнай шкодай і злачыньнем.

Таму ўсялякае, гэтак спрычыненае, калецтва нашае найдаражэйшае спадчыны, каб не разыйшлося заразай, павінна выкрывацца й таўравацца, ды ўсьлед залечвацца прыкладамі належнага выкарыстоўваньня моўнага багацьця.

У нас, нажаль, хоць і дзе ні глянь мала што гожа, усё-ж на ніве рэлігійнага выдавецтва гэткія шкоды сталі нормай, а за выполваньне пустазельля, пры наяве даволі да таго наўчоных, ізь сьвецкае няцікаўнасьці, ці партыйна-палітычнага разьліку, ніхто не бярэцца.

Наслухоўваючы гэткую моўкнасьць крытыкі, нат пры асьцярозе на нястачу ў сабе адумысловае навукі, у некаторых выпадках становіцца нясьцерпна, каб, здаўшыся адно на тое, што амэрыканцы называюць "sensitivity of the native speaker" ня гукнуць "ратуйце" й ня выткнуць пальцам як, чым і хто паскудзіць любую сэрцу мову.

З прычынаў на няўтрываньне, каб не загаласіць зь бяжальнага й тупога абыходжаньня з нашай мовай, возьмем сёньня на разгляд кніжыцу " Беларускі Праваслаўны Малітоўнік", выдадзеную пад фірмаю Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў 1990-м годзе на Канадзкай зямлі.

На 160-ці, амаль, бачынах у кніжыцы надрукаваныя, апрача штодзённых малітваў, яшчэ ў немалой колькасьці й рэдка ўжываныя, а таксама тэксты некаторых сьпеваў з Божых Службаў, ды ўрэшт і кароткія настаўленьні ў веры.

Выказаць аб усіх чыста іх мяркаваньні ў карткім агляздзе немагчыма й таму даводзіцца з большага паразважаць адно аб малітвах штодзённых, запэўніўшы чытача, што ўсё праз гэтыя малітвы сказанае ў роўнай меры датычыць зьместу да канца.

Сьпярша нельга не заўважыць, што ў кніжыцы, як правіла ўжываецца небеларускі парадак словаў, а гэта: назоўнік+займеньнік, дзеяслоў

+займеньнік, або назоўнік+прыметнік і інш., напрыклад: "імя Твае, душы нашы, розум мой"; "пяем Табе, падняў мяне, адгані мяне" і "сэрца чыстае, дух моцны, хлеба нашага штадзённага", ды пад., замест якраз адваротных месцаў гэтых словаў у будове сказаў беларускае мовы.

Гэтыя бясконцыя калькі з царкоўна-славянскае мовы, у якую яны трапілі з грэцкае, адразу разьбіваюць свомую беларускай мове мэлядыйнасьць ды робяць тэксты выбоістымі, і чужымі для слыху.

Дадаюць гэтага ўражаньня нянаскасьці яшчэ й усечаныя, паводле бэзсэраўскіх скрываў граматыкі, хвормы займеньнікаў "наша, нашы", замест "нашая-е, нашыя".

На вышэй паказаных усюдных агрэхах заганнасьць малітоўніка аднак ня кончыцца, але адно адчыняецца, бо пачаўшы чытаць тэксты малітваў адразу становіцца ясна, што рэдактар, які рабіў паправу выданьня й пусьціў яго ў сьвет, царкоўна-славянскае мовы не разумее, а беларускае ня ведае.

На довад прачытаем колькі малітваў, пачынаючы з "Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, Збаўца наш, дзеля малітваў Маці Твае і ўсіх сьвятых, памілуй нас. Амінь".

У гэтым нядоўгім сказе бачым найменш 5 памылак, якія, не ўваходзячы ў дыскусыю зь няпісьменнасьцяй, спрабуем заступіць чыстаю мовою.

Дык вось у малітоўніку напісана "Госпадзе" замест "Госпаду", "Сыне Божы", а не як трэба "Божы Сыну", "Збаўца наш", дзе належала-б "наш Збаўча", "дзеля малітваў Маці Твае", хоць лепш было-б "праз малітвы Твае Маці", ды ўрэшт "памілуй" там, дзе трэба паставіць "зьмілуй".

Таксама й замест "амін" ляпей гучэла-б "амінь".

Возьмем цяпер наступную малітву: "Уладару нябесны, Уцяшыцелю, Духу ісьціны, што ўсюды прысутны і ўсё напаўняеш, Скарбніца дабра й Жыцьцядацелю, прыйдзі і ўсяліся ў нас і ачысьці нас ад усяго благога, і збаў, Добры, душы нашы".

Узноў чуем гэтта "Уладару нябесны" замест "Нябесны Ўладару", слова з расейскім канчаткам "Уцяшыцелю", а не як трэба было-б "Суцешніча", "Духу ісьціны", дзе належала-б "Духу праўды", а можа й прыямнейшае для вуха "Дусе праўды", "што ўсюды прысутны і ўсё напаўняеш", хоць лепей было-б "Ты, што /ц.-сл. "иже"/ ўскрозь бытны й усё поўніш", палянізм "Скарбніца дабра", дзе адпавядала-б "Багацьце дабра", неўпадобнае беларускай мове слова-монстр "Жыцьцядацелю" на месцы "Даўча жыцьця", "ачысьці нас ад усяго благога", дзе-б падыходзіла "ачысьць нас ад усялякага блага", ды ўрэшт "збаў, Добры, душы нашы" замест "збаў, Ласкаў, нашыя душы".

Ідучы далей чытаем: "Найсьвяцейшая Тройца, зьлітуйся над намі, Госпадзе, ачысьці правіны нашы. Уладару, выбач бяспраўе наша. Сьвяты, наведай нас і аздараві нашы немачы дзеля імя Твайго".

Гэтта варта задумацца, ці ў першым слове ня лепш было-б скарыстаць скарочаную хворму найвышэйшае ступені прыметніка, што пачынае ўваходзіць у беларускую мову, г.зн. у гэтым выпадку напісаць "Найсьвятая", ды ўзважыць, ці пакінуць слова "Тройца", як яно ёсьць у жаночым родзе, ці заступіць згодным з сэнсам "Тройства".

Апрача таго "зьлітуйся над намі" патрабуе замены на "зьмілуй нас", "Госпадзе, ачысьці правіны нашы" на "Госпаду, ачысьць нашыя грагі", а замест "выбач бяспраўе наша" трэба паставіць "даруй нашыя няпраўнасьці", ды ўрэшт "наведай нас і аздараві немачы нашы дзеля імя Твайго" павінна гучэць "наведай /бяз "нас"/ і аздараві нашыя немачы дзеля Твайго імя".

Ня жаліўся выдавец папраўленага ім малітоўніка й над тэкстам найбліжэйшае хрысьціянскаму сэрцу малітвы "Войча наш", пачынае яе бо словамі "Ойча наш нябесны", хоць ува ўсіх мовах ейны пачатак мовіцца "Войча наш, Ты што /узноў ц.-сл. "иже"/ на небе ёсьць", а пабеларуску, магчыма, яшчэ лепш было-б "Войча наш, Той, што на небе Ты бытны".

Далей у перакладзе выяўляецца цалковае неразуменьне слова "святится", бо зь ягонага "сьвяціся" находзіць думка, што тое Войчае ймя павінна, або блішчэць сьвятлом, або самое сябе сьвяціць крапілам, калі ў запраўднасьці гэтта загад паважаць Яго, як сьвятое, што пабеларуску можна выказаць "будзь Твае ўсьвячанае ймя".

Сумнеўна таксама, ці "валадарства" адказвае сэнсу царкоўна-славянскага слова "царствие", бо ўладу над сьветам Бог мае ўвесь час, а ягонага гаспадарства, дзе будуць выконвацца ўсе Ягоныя наказы, мы яшчэ чакаем, дык і трэба клікаць " Твае гаспадарства прыйдзі".

Калі йдзе праз "станься воля Твая, як у небе, так і на зямлі", дык аднаразовае й скончанае "станься" не адказвае цягламу й бясконцаму "будзь", і таму гэтта павінна быць "будзь Твая воля, як на небе, гэтак і на зямлі".

Сьледам маем "хлеба нашага штадзённага дай нам сёньня", дзе ня толькі, як і ўскрозь, чужы парадак словаў, але й "штадзённы" ня згодзен із сэнсам "насущный", бо звужвае разуменьне неабходнае на ўтрыманьне людзкога жыцьця пажывы да патрэбы матэрыяльнае стравы, абыходзячы ня менш важнае духовае пасілкаваньне, чаго, каб не дапусьціць лепш падыйшло-б скарыстаць вывад із слова "пражыць" і мовіць "нашага пражытнага хлеба сёньня нам дай".

Наступнае "і выбач нам правіны нашы, як і мы выбачаем вінаватым прад намі" ўражае ня толькі глухнёю да моўнае музыкі, але й няўцямнасьцяй сэнсу, не адно дзеля адценю паміж "остави,оставляем" і "выбач, выбачаем", ды "долги, должником", а "правіны, вінаватым", але й з набежнага жартаўлівага пытаньня, ці выбачаем мы адно вінаватым сьпераду нас, не папускаючы тым, што ўвініліся ззаду.

Таму гэтта шмат гладчэй падыйшло-б сказаць "і даруй нам нашыя віны, гэтак, як і мы дароўваем тым, што вінныя нам".

Зварот "і ня дай нас у спакусу", нават пры засьцярозе да "не введи" ў арыгінале, дакладней усё-ж трэба было-б перакласьці, як гэта робіцца ў іншых мовах "і не ўвядзі нас у спакушэньне".

Урэшт "але збаў нас ад злога" выпучвае няўклюднасьць у беларускай мове словаў "зло", ці "злы" ды іхнюю неадпаведнасьць ц.-славянскаму "лукавый", і таму гэтта нельга сказаць інакш, як "ад ліхога нас збаў".

Не маючы месца, ані цярплівасьці, каб брысьці ў бязглуздзіцу глыбей, дакінем яшчэ, што ня толькі малітвы да Бога ў перакладзе абярнутыя ў пасьмех і абразу, але й прасьбы да Божае Маці, як хоць-бы "Достойно есть" вызначаюцца няўцямнасьцяй, якая паказваецца, між іншым, у званьні Яе "заўсёды шчасьлівай", дзе да царк.-славянскага "присноблаженную" бліжэй было-б казаць "усьцяж усхваляную", а таксама замест "найчысьцейшую" магчыма паставіць "звышбеззаганную", ды ўрэшт замяніць "непарушнаю", што нагадвае расейскае слова "недотрога", бліжэйшым да сэнсу "без истления" - "нязблажна", або "не зблажыўшы".

Як бачым з прыкладаў заганнасьці адно колькі малітваў, мову, якой напісаны малітоўнік, зусім нельга назваць беларускай, а таму самое выданьне не заслугоўвае, каб браць яго ў рукі, бо ў ім пародыя нашае гутаркі й непавага да

Бога.

Калі-б гэткай карыкатурай роднае мовы хтоколечы адважыўся выпусьціць у сьвет нейкі друк у Польшчы, ці Расеі, дык яго, пэўна, палічылі-б ненармальным і ўсё выданьне пайшло-б у макулатуру, а ў нас за падпарадкаваньне царкоўных справаў круцельствам эміграцыйных палітыканаў, чалавек, які да беларускае мовы мае аднолькавае дачыненьне, што кулак да носа, узвышаецца, як новы Скарына й атрымоўвае на псоў, і шкоду, гэтак патрэбныя, ці на адну добрую мэту, грошы.

Таму нельга далей дапушчаць, каб гэткае наўмыснае нявечаньне роднае мовы лічылася ў нас дабрадзействам і трэба ўрэшт папярэдзіць кожнага беларуса, што друкаваныя таронцкім выдаўцом малітоўныя й багаслужбовыя тэксты да належна зробленых перакладаў на беларускую мову й да Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, як і ён сам, ніякага дачыненьня ня маюць.

## ЗАКЛІК

Дарагія праз Хрыста Сёстры й Браты!

З Божае Ласкі Беларускі Народ атрымаў дзяржаўную незалежнасьць бяз збройнага цяпер за яе змаганьня й спадарожных зь ім крывавых людзкіх стратаў.

Бязбойнае й бяскрывавае ўжыцьцяўленьне аддаўніх лятуценьняў ды ймкненьняў лепшых сыноў і дачок Беларускага Народу да свабоды не адхіліла, усё-ж, перад цяперашнім ягоным пакаленьнем змаганьня за захаваньне й умацаваньне гэтае лёгка, здавалася-б, прыйшлае незалежнасьці.

Змаганьне за яе адбываецца, аднак, не на біцьвяных гонях, а на палёх ідэалагічнага дужаньня й абярненьня гэтае гістарычнае нагоды нацыянальнага ратунку ў вадчувальную кожнаму грамадзяніну, і вартасную яму запраўднасьць.

У кожным змаганьні, як і дзе яно ня йшло-б, спадзеў і задатак на перамогу дае ў першую чаргу пачуцьцё дагоднасьці бароненае справы Божай Волі ды ўпэўненасьць, што паслухмянасьць Знайвышнім наказам праз удзел у гэтым змаганьні ёсьць, якраз і зарукай гэтае перамогі.

Гэткую непахісную ўпэўненасьць, праўдзівым навучэньнем мудрасьці стварэньня сьвету ў ягонай рознасьці ды Хрыстовага наказу любасьці да найбліжэйшых, можа даць Беларускаму Народу толькі Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

Нажаль, у сеньняшніх абставінах гэтай роднай Беларускай Царкве доступу да свайго Краю й месца там няма, а чужым і варожым сілам Расейскае Праваслаўнае Царквы, ды Польскага Каталіцкага Касьцёла дадзеная поўная свабода забіваць у беларускіх душах любасьць да свае Бацькаўшчыны, ды насаджваць у іх зрадніцтва на карысьць усходніх, ці заходніх суседаў.

Гэткае становішча ў рэлігійным жыцьці й слабасьць з гэтае прычыны нацыянальнага адраджэньня Беларусі, ды станаўленьня Ейнае дзяржаўнасьці, ідзе ня толькі з апанаваньня ўладнае структуры ўпорыста сабатажніцкімі рэшткамі былога савецкага апарату, але й больш яшчэ з уявы пагрозы павадной ролі адраджэнскага актыву, які той на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, бачыць у адбудове нацыянальнае Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Усьведаміўшы гэтую горкую праўду, ня варта, аднак, упадаць у зьнявер, але йз згадам Божае Ласкі, што абдарыла нас незалежнасьцяй, у думцы, цьвёрда верыць у мудрасьць гэтае самае Знайвышняе Ласкі паклікаць, калі прыйдзе вызначаная пара, нашую Сьвятую Царкву да ратунку й умацаваньня найдаражэйшага ў сьвеце дару незалежнасьці.

А каб настаньне тае пары наблізіць і ўпэўніць, трэба маліцца й на гэтую мэту працаваць ды забясьпечваць гэтай вялікай мэце моцную базу дзеля ейнага ўжыцьцяўленьня.

Гэткай галоўнай базай прышлага ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне ўжо дзесяцігодзьдзямі быў і застаецца Катэдральны Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне й нельга дапусьціць, каб ягонае йснаваньне з паверу варожым намовам, безнадзейнасьці, або абыякавасьці стала пад сумневам.

Таму, калі ласка, знайшоўшы паглядам у собскае сэрца водбліск там Божае Волі, шчодрай калядняй ахвярай спрычыніцеся да захаваньня нашае супольнае Сьвятыні ў добрым стане.

А за гэты Ваш добры ўчынак няхай пашле Вам народжаны ў Бэтлееме Дзіцятка-Бог радасьць у Каляднае Сьвята ды ўзнагародзіць духовым, і матэрыяльным багацьцем у Новым 1995-м Годзе!

Парахвіяльная Рада
Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага
ў Брукліне

CHURCH MESSENGER
401 ATLANTIC AVENUE
BROOKLYN, N.Y. 11217

